**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 40 (861) 6 кастрычніка 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





**У мінулую нядзелю ў Глыбокім адбыўся традыцыйны восеньскі кірмаш. Гараджане змаглі танна набыць прадукцыю сельгаспрадпрыемстваў раёна. Прысутных парадавала вялікая канцэртная праграма Дамоў культуры Глыбоччыны. Журы абрала лепшы сельскі панадворак.** *Фота Леаніда Юрыка.*



ISSN 2077-8023



Полацкі раён

# Трыўмфальны дэбют

■ Кастусь Александровіч

**Нават у складанейшых жыццёвых сітуацыях людзям нельга здавацца, што бліскуча даказалі нядаўна тысячы ўдзельнікаў Паралімпійскіх гульняў-2016 у Бразіліі.**

Адным з герояў у далёкім Рыа-дэ-Жанейра стаў 33-гадовы шпажыст з Полацка Андрэй Праневіч, які выйграў залаты медаль сярод інвалідаў-калясачнікаў у катэгорыі "В". У ноч яго фінальнага паядынку з моцным сапернікам з Ірана бацькі атлета, якія жывуць у вёсцы Салонікі Полацкага раёна, так і не заснулі. Маці чэмпіёна Валянціна Віктараўна асабліва хвалявалася і нават заплакала, бо менавіта ў такі ж самы восеньскі дзень, амаль чвэрць стагоддзя назад іх сын у дзесяцігадовым узросце атрымаў цяжкую траўму пазваночніка і на ўсё жыццё застаўся прыкаваны да інваліднай каляскі. Калі ў горадзе браты Сушчыны за ўласныя сродкі пабудавалі шыкоўную спецыялізаваную залу для фехтавання, Андрэй прыняў 9 гадоў назад прапанову сур'ёзна заняцца гэтай справай і стаў настойліва, упарта трэніравацца. Характар у палачаніна моцны, а сіла волі, яго настойлівасць неўзабаве дазволілі А. Праневічу стаць чэмпіёнам Еўропы ў 2014 годзе і прызёрам потым на сусветным першынстве. На Паралімпіяду Андрэй адабраўся ўпершыню, а ў рашаючай сустрэчы з Аммарам Алі пры ліку 14:14 у канцоўцы нанёс сапернiку пераможны ўкол. За бліскучае дасягненне ўладальнік ганаровага звання "Чалавек года Полаччыны" атрымае ад дзяржавы 50 тысяч долараў прызавых.

Віцебская вобласць

# З возера – на лаву падсудных

■ Чэслаў Якубовіч.

**На неапраўданую рызыку ідуць сёлета браканьерскія групы ў пагоне за дармавой рыбай, але ўсё часцей трапляюць у непрыемныя для сябе гісторыі.**

Вось і трое аршанцаў ужо пазбавіліся аўтамабіля аднаго з іх, на якім яны прыехалі на возера Свіракі ў Дубровенскім раёне, дзе сеткамі вылавілі 40 кг рознай рыбы. Аднак далёка ад вадаёма браканьеры з уловам не ад'ехалі, іх затрымалі і распачалі потым крымінальную справу супраць парушальнікаў. У лепшым выпадку акрамя вялікага штрафу тройцы прыйдзецца выплаціць больш 60 млн. старых рублёў за ўрон прыродзе. Суд Шумілінскага раёна ўжо пакараў двух гора-рыбакоў за незаконны вылаў 228 шчупакоў 2 гадамі турмы з адтэрміноўкай выканання прыгавору, вялікімі штрафамі і па 100 гадзін грамадскіх работ кожнаму. Між тым, на працягу толькі аднаго тыдня ў сярэдзіне верасня на вадаёмах Прыдзвіння было затрымана 14 груп браканьераў, некаторымі з іх сталі займацца ўжо праваахоўныя органы. Пад суд пойдзе і браканьер, які паспеў паставіць нават 8 сетак на возеры Чорная Урода ў Лепельскім раёне. Гэты гора-рыбак у той дзень не паспеў злавіць ніводнай рыбы, бо быў затрыманы супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету. Аднак гэта акалічнасць не пазбавіць яго ад пакарання, паколькі на працягу года ён ужо прыцягваўся да адказнасці за незаконны вылаў рыбы, але неабходных высноў для сябе не зрабіў. Дорага расплачвацца за багаты ўлоў з чатырох сетак прыйдзецца і двум браканьерам, якіх затрымалі на адным з азёр Чашніцкага раёна.

Акрамя рыбы былі канфіскаваны і 4 незарэгістраваныя ў міліцыі стрэльбы ў браканьераў-паляўнічых.

Полацкі раён

# Абарвалася жыццё салдата

■ Станіслаў Раманчук.

**Невыпадкова трывожацца бацькі многіх прызыўнікоў, бо і ў беларускай арміі перыядычна фіксуюцца факты нестатутных узаемаадносін і, на жаль, розныя трагічныя здарэнні.**

Вось і напрыканцы верасня ў адной з воінскіх частей на тэрыторыі Віцебскай вобласці недарэчна абарвалася жыццё 19-гадовага салдата тэрміновай службы з Полацка. Паведамленне прэсслужбы Міністэрства абароны Беларусі з гэтай нагоды было вельмі лаканічным. Там паведамілі, што загінуў ён у выніку парушэння правілаў тэхнікі бяспекі пры эксплуатацыі ваеннай тэхнікі, атрымаў траўмы, несумяшчальныя з жыццём. Па непацверджанай афіцыйна інфармацыі, у той трагічны дзень малады ваеннаслужачы апынуўся каля БМП і быў расціснуты шматтоннай машынай. Аднак якія б не былі абставіны гэтай бяды, дамоў прывезлі толькі труну, а ваенныя выказалі спачуванне родным і блізкім салдата, аказалі ахопленай горам сям'і матэрыяльную дапамогу ў адпаведнасці з заканадаўствам. Дарэчы, у пачатку восені – гэта быў не першы такі страшны выпадак. Трагічна загінуў яшчэ адзін салдат у адным з гарнізонаў Гродзенскай вобласці пры неасцярожным абыходжанні са зброяй. Хоць ваенкаматы і воінскія часці стараюцца падбіраць на ваенную службу здаровых хлопцаў і псіхалагічна ўстойлівых, аднак падчас нясення службы здараецца, што маладыя людзі ў пагонах зводзяць рахункі з жыццём. Так сёлета такія здарэнні фіксаваліся некалькі разоў у пагранічных войсках, а вясной на пагранзаставе Лынтупы Пастаўскага раёна з-за няшчаснага кахання застрэліўся з аўтамата сяржант, якому заставалася служыць усяго некалькі тыдняў перад звальненнем у запас.

# Аб самым надзённым

## ПРАВОДЗІЦЬ ВЫБАРЫ БЕЛАРУСЫ НАВУЧЫЛІСЯ, АЛЕ НЕ ЎДАЕЦЦА ДАМОВІЦЦА З РАСІЯЙ АБ ПРЫМАЛЬНЫХ ЦЭНАХ НА ГАЗ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Беларусы лічаць, што з-за падзення сусветных цэн на энерганосьбіты справядлівай павінна быць цана газу ў суме 80 долараў, а не 132 долары, якія спрабуюць выбіць з нас суседзі. Беларускі доўг за блакітнае паліва расце, у першым паўгоддзі ён перавысіў 270 млн. USD, а зараз з'явіліся звесткі аб запазычанасці болей 400 млн. долараў.**

Тэмп сучаснага жыцця проста неверагодны, здабыткам гісторыі сталі ўжо нядаўнія выбары 110 дэпутатаў шостага склікання Палаты прадстаўнікоў. Ніхто з адэкватных людзей не сумняваўся, якія будуць іх вынікі, хто з кандыдатаў пройдзе ў парламент. Незалежныя СМІ зрабілі свае прагнозы, дакладна з пагрэшнасцю толькі па 4-х акругах са 110 яшчэ за месяц да асноўнага дня галасавання склалі спісы тых, хто будзе ў далейшым працаваць у авальнай зале. Яўка выбаршчыкаў на гэтых выбарах зноў была вельмі высокай, як і працэнт прагаласаваўшых добраахвотна-прымусова датэрмінова, а ў цэлым 5,2 мільёны беларусаў прыйшлі на ўчасткі і прагаласавалі так, як планавалася ўладамі, дастаткова спакойна.

Пасля працяглага перапынку ў парламенце з'явіліся двое прадстаўнікоў апазіцыі, больш вялікім, чым раней, стала прадстаўніцтва там членаў розных партый, а камуністаў найболей – нават 8 чалавек. Увогуле на гэтых выбарах усё ішло па адпрацаванай схеме, а ў нядзелю 11 верасня на сваім выбарчым участку прагаласаваў А. Лукашэнка і паразмаўляў па традыцыі потым з журналістамі. Мяне асабіста найбольш усцешыў той факт, са слоў прэзідэнта, што неўзабаве ў Мінск павінен вярнуцца амерыканскі пасол, а ў Вашынгтон адправіцца працаваць яго беларускі калега. Беларускі лідар у дзень выбараў быў у добрым настроі і паведаміў, што ўдалося практычна дамовіцца з Расіяй па складанай праблеме прымальных для нас цэн на газ: " россияне в общем-то, как мне кажется, очень серёзно подвинулись в этом плане и этим самым признали, что белорусы были правы".

Як падаецца, беларускі бок сур'ёзна разлічваў на дывідэнты пасля гучнага ўчынку на Паралімпіядзе ў Бразіліі,дзеадзінзчыноўнікаў ад спорту спрабаваў пранесці на цырымоніі адкрыцця сцяг расійскай зборнай, якую туды не дапусцілі з-за разгалінавай сістэмы допінгу і падманаў. Прэзідэнт, каб спадабацца суседзям, у адным з інтэрв'ю нагадаў, што ў душы ён болей адчувае сябе расіянінам, чым беларусам. Кіраўнік нашай краіны паслаў нават тэлеграму У. Пуцін па спецсувязі, а потым публічна даў два дні на канчатковае вырашэнне застарэлай нафтагазавай спрэчкі па пастаўках у Беларусь энерганосьбітаў. Апошнія інструкцыі наконт гэтага Прэзідэнт даў на наступны дзень на рабочай сустрэчы з віцэ-прэм'ерам урада У. Сямашка.

Апошні паляцеў у Маскву, правёў чарговыя перамовы са сваім расійскім калегам А. Дварковічам і зноў нас чакаў аблом: Беларусь з Расіяй не дамовіліся аб цэнах на газ. Нагадаем, што падобныя рознагалоссі ў такім цэнаўтварэнні паміж саюзнікамі і членамі Еўразійскага эканамічнага саюза існуюць з пачатку гэтага года. Беларусы лічаць, што з-за падзення сусветных цэн на энерганосьбіты справядлівай павінна быць цана газу ў суме 80 долараў, а не 132 долары, якія спрабуюць выбіць з нас суседзі. Беларускі доўг за блакітнае паліва расце, у першым паўгоддзі ён перавысіў 270 млн. USD, а зараз з'явіліся звесткі аб запазычанасці болей 400 млн. долараў.

Вось вам і норавы, якія пануць у гэтым саюзе тайгі ЕАЭС, у любым выпадку сітуацыя непрыемная і заблытаная. І відавочна, што беларусам дабіцца ад Крамля роўнадаходных справядлівых цэн будзе вельмі цяжка. Невыпадкова адначасова паведамілі аб іншым даручэнні А. Лукашэнкі аб неабходнасці прапрацоўкі альтэрнатыўных механізмаў паставак у Беларусь энерганосьбітаў. Такім чынам ужо вядуць свае справы нашы суседзі ўкраінцы і раней мы спрабавалі прымаць нафту ў портах Адэсы нават з далёкай Венесуэлы. Пакуль жа надзея, што спрацуе формула "газ у абмен на ваш сцяг", не апраўдалася. Па гэтай прычыне рускія, магчыма, прыпынілі будаўніцтва свайго хмарачоса офіса "Газпрама" ў нашай краіне на месцы, дзе нам прыйшлося знесці яшчэ новы аўтавакзал "Маскоўскі".

Аднак пакуль маем тое, што маем. У бліжэйшы час можна дакладна чакаць, што да канца года крыху павялічацца (працэнтаў так на 5) працоўныя пенсіі беларусам. Хоць напрыканцы лета ў нас была зафіксавана нават дэфляцыя, разлічваць на працяг такой прыемнай з'явы не выпадае. Наадварот у 4-м квартале інфляцыя зноў разгоніцца пасля пачатку новага ацяпляльнага сезона і могуць яшчэ павялічыцца тарыфы на камунальныя паслугі і цэны на электраэнергію і паліва. Невыпадкова дэпутаты адыходзячага ў гісторыю парламента сталі разглядаць дзяржбюджэт на 2017 год, які быў распрацаваны па песімістычным сцэнарыі далейшага развіцця падзей з улікам зніжэння сусветных цэн на нафту. Пасля парламенцкіх выбараў таксама ў нас была сфарміравана і яго верхняя палата, рэгіянальныя дэпутаты на сваіх сходах абралі яшчэ і 56 сенатараў. Аднак і ўплыў апошніх на развіццё бягучых падзей быў пакуль малы.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 06.10.16 | | | | Пятніца 07.10.16 | | | | Субота 08.10.16 | | | | Нядзеля 09.10.16 | | | | Пан. 10.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +8 | +8 | +11 | +9 | +9 | +7 | +9 | +7 | +7 | +6 | +8 | +5 | +4 | +5 | +8 | +6 | +5 | +5 | +8 |
| Ціск | 751 | 750 | 750 | 750 | 749 | 748 | 747 | 747 | 747 | 747 | 748 | 750 | 749 | 750 | 750 | 749 | 749 | 749 | 751 |
| Вецер м/сек | 9 Пн-У | 9 Пн-У | 9 Пн-У | 7 Пн-У | 7 Пн-У | 7 Пн-У | 8 Пн-У | 7 Пн-У | 7 Пн-У | 6 Пн-У | 7 Пн-У | 7 Пн-У | 6 Пн-У | 5 Пн-У | 6 Пн-У | 7 Пн-У | 6 Пн-У | 6 Пн-У | 7 У |
| Вільготнасць | 92 | 93 | 94 | 93 | 94 | 94 | 93 | 92 | 94 | 95 | 95 | 93 | 94 | 95 | 95 | 93 | 93 | 94 | 93 |

## Дзень за днём

**У першым паўгоддзі колькасць занятых у беларускай эканоміцы скарацілася на 80 тысяч чалавек. У Беларусі паскорыліся тэмпы падзення ВУП, рознічны гандаль зменшыўся на 3 %, а аптовы – больш чым на 9 %. Расія прыгразіла абмежаваць увоз мяса і малака з чатырох абласцей Беларусі. Расія і ў IV квартале будзе пастаўляць у Беларусь меншыя аб'ёмы нафты. Алігарх Ю. Чыж прызнаў сваю віну і кампенсаваў урон дзяржаве. З-за анамальнай спёкі ў нацпарку "Прыпяцкі" гарэлі тарфянікі. Беларус Ігар Бокій стаў сапраўдным героем Паралімпіяды ў Рыа-дэ-Жанейра.**

# Важнейшыя навіны свету

**Славакія.** На нефармальным саміце ЕС у Браціславе канцлер ФРГ А. Меркель заявіла, што Еўрасаюз знаходзіцца ў крытычнай сітуацыі пасля выхаду Англіі, наплыву мігрантаў.

**Балгарыя.** Урад краіны папрасіў у ЕС 160 млн. еўра дапамогі для абароны граніцы з Турцыяй, абмежавання патокаў адтуль нелегальных уцекачоў і мігрантаў.

**Бельгія.** Да вясны 2017 года Савет ЕС прадоўжыў персанальныя санкцыі супраць 146 фізічных і 37 юрыдычных асоб Расіі, якія маюць адносіны да вайны ў Данбасе.

**Расія.** Больш паловы расіян праігнаравалі выбары ў Дзяржлуму РФ, дзе канстытуцыйную большасць займела правячая партыя "Адзіная Расія" дзякуючы аўтарытэту Пуціна.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка вылучыў ключавыя патрабаванні да Расіі па перамір'ю ў Данбасе, найперш спыніць накіроўваць туды яе рэгулярныя войскі, танкі, артылерыю.

**Германія.** Глава МЗС Ф. Штайнмайер заявіў, каб не мінскія пагадненні, то канфлікт у Данбасе мог бы разгарэцца на вялізнай тэрыторыі, там справы зайшлі ў тупік.

**Расія.** Услед за 4-й авіядывізіяй пад Валгаградам Генштаб РФ пачаў стварыць 150-ю мотастралковую дывізію ў Растоўскай вобласці ля граніц Украіны, дывізію ў Крыме.

**Егіпет.** Францыя перадала краіне другі верталётаносец "Містраль", які быў спачатку пабудаваны для Расіі, але кантракт разарвалі з-за вайны рускіх ва Украіне.

**Люксембург.** Суд ЕС не вярнуў экс-прэзідэнту Украіны В. Януковічу яго замежныя банкаўскія актывы, бо яны былі незаконна прысвоены з дзяржаўных сродкаў.

**Расія.** Фонд па барацьбе з карупцыяй А. Навальнага абвінавачвае прэм'ера Д. Мядзведзева ў завалоданні яго прыбліжанымі сядзібай XVIII стагоддзя ля Волгі плошчай 80 гектараў.

**ЗША.** Спецдакладчык ААН па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі М. Харасці заявіў, што 11 верасня там назіраўся поўнасцю кіруемы працэс выбараў, мала што змянілася.

**Польшча.** Эксперт прафесар К. Навачык заявіў аб фальсіфікацыі часткі матэрыялаў аб авіякатастрофе прэзідэнцкага самалёта вясной 2010 года пад Смаленскам.

**Літва.** МЗС краіны пацвердзіла, што з Беларуссю застаюцца рознагалоссі наконт прымянення міжнародных стандартаў ацэнкі бяспекі ўзводзімай Беларускай АЭС.

**Бельгія.** Упершыню ў свеце ў краіне прымянілі эўтаназію да невылечна хворага малога дзіця, якое знаходзілася ў крытычнай безнадзейнай сітуацыі.

**Швейцарыя.** На пазачарговым кангрэсе новым прэзідэнтам УЕФА выбралі славенца А. Чэферына, фінал будучай Лігі чэмпіёнаў-2018 прыме стадыён "Алімпійскі" ў Кіеве.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Астравец.** На паўгода, як пацвердзіў першы намеснік главы "Расатама" А. Лакшын, а то і болей павялічыцца тэрмін уводу Беларускай АЭС з-за замены корпуса яе рэактара.

**Калядзічы.** Дзяржпрадпрыемства "БТЛЦ" сумесна з ААТ "Белінтэртранс-Германія" запусціла ў Кітай новы кантэйнерны поезд з 60 вагонаў, час у дарозе дасягае 10 сутак.

**Слуцк.** Услед за малзаводамі ў Шклове і Пружанах буйная французская кампанія Danone хоча стварыць экспартны малочны кластэр на базе мясцовых сыркамбіната і піўзавода.

**Гродна.** Лідар руху "За свабоду" А. Мілінкевіч заявіў, што ўлада разумее, каб усе беларусы кансалідаваліся вакол нацыянальнай ідэі, вакол ідэі незалежнасці.

**Шчучын.** Група бізнесменаў на чале з А. Паўлоўскім адкрыла за 50 млн. еўра тут новы буйны завод "Праймілк" па перапрацоўцы да 27 тысяч тон малочнай сывараткі штогод.

**Бабруйск.** З-за падзення попыту бізнесмен С. Кульгавы закрыў сетку з 12 магазінаў моднага абутку Axis у горадзе, абласных цэнтрах і ў беларускай сталіцы.

**Мінск.** Палітолаг А. Фёдараў папярэдзіў, што паляпшэнне беларускаамерыканскіх адносін будзе працягвацца, пакуль улады не адчуюць пагрозу сваім інтарэсам.

**Маларыта.** З-за зніжэння попыту на будматэрыялы кампанія "Кварцмелпрам" алігарха Ю. Чыжа спыніла працу ў райцэнтры аднаго са сваіх цэхаў па вытворчасці вапны.

**Брэст.** Пасля зняцця абмежаванняў на вываз беларусамі паліва нагрузка на супрацоўнікаў пункта мясцовага пропуску на граніцы з Польшчы павялічылася ў 2 разы.

**Навагрудак.** За наўмысны падпал ноччу дома былой сужыцелькі міліцыя затрымала жыхара раёна, агонь хутка патушылі, але будынак быў часткова знішчаны.

**Івацэвічы.** Позна вечарам ля вёскі Харошча ўрэзаўся ў мапед 33-гадовага мужчыны і загінуў таксама кіроўца без правоў на матацыкле, 18-гадовы юнак, старэйшы з іх выжыў.

**Мядзель.** Каля гадзіны ночы на паркоўцы ля санаторыя "Прыазёрны" ў курортным пасёлку Нарач п'яны 25-гадовы хуліган з Рэчыцы пашкодзіў 5 аўтамабіляў, яго чакае суд.

**Гродна.** Прама на аўтобусным прыпынку кампанія агрэсіўных мужчын вельмі моцна збіла 49-гадовага кантралёра аўтапарка, у яго некалькі пераломаў, хуліганы ўцяклі адсюль.

**Кобрын.** Грузавік Брэсцкага мясакамбіната перад домам-музеем Суворава ў райцэнтры выпадкова зачапіў і збіў помнік-бюст расійскага палкаводца, душыцеля паўстання 1794 года.

**Мінск.** Віцэ-прэм'ер А. Калінін паабяцаў, што ў 2017 г. пасля рэканструкцыі адкрыецца сучасны лёгкаатлетычны стадыён "Дынама" на 22 тысячы месц з футбольным полем.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# МПЗ накіравала больш за 10 тыс. паведамленняў на выплату збору беларусам, якія не ўдзельнічаюць у фінансаванні дзяржвыдаткаў




■Кар. БЕЛТА

**Міністэрства па падатках і зборах накіравала больш за 10 тыс. паведамленняў на выплату збору беларусам, якія не ўдзельнічаюць у фінансаванні дзяржаўных расходаў, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе ведамства.**

«У цяперашні час грамадзянам, якія прызнаюцца плацельшчыкамі збору на фінансаванне дзяржаўных выдаткаў, накіроўваюцца паведамленні на выплату гэтага збору, які павінен быць выплачаны не пазней як 15 лістапада 2016 года. Такія паведамленні ўжо накіраваныя больш за 10 тыс. грамадзян», - растлумачылі ў МПЗ. Пры гэтым у прэс-службе адзначылі, што грамадзянін, які атрымаў паведамленне, мае права прадставіць у падатковы орган дакументы, якія даказваюць, што ён не павінен плаціць збор або што сума яго налічана няправільна. Сёння ўжо больш за 11 тыс. грамадзян апавясцілі падатковыя органы аб наяўнасці права на вызваленне ад выплаты збору. У МНС падкрэслілі, што падатковыя органы працягваюць працу па фарміраванні базы дадзеных плацельшчыкаў збору на фінансаванне дзяржаўных выдаткаў за 2015 год. «Вызначэнне пераліку ўдзелу грамадзян у фінансаванні дзяржаўных расходаў ажыццяўляецца на падставе звестак, якія ёсць у дзяржаўных органах і арганізацыях. Аднак многія грамадзяне працуюць за межамі нашай краіны і выплачваюць падаткі на тэрыторыі замежных дзяржаў, таму цалкам аўтаматызаваць працэс фарміравання базы дадзеных плацельшчыкаў па аб'ектыўных прычынах не ўяўляецца магчымым», - растлумачылі ў прэс-службе. У МПЗ нагадалі, што пры адсутнасці інфармацыі аб удзеле грамадзяніна ў фінансаванні дзяржвыдаткаў падатковыя органы ўдакладняюць у яго наяўнасць права на льготы, у тым ліку накіроўваючы яму пісьмовы запыт. «Да таго ж праінфармаваць нас аб праве на вызваленне ад выплаты збору можна як звярнуўшыся ў падатковы орган асабіста, так і напісаўшы паведамленне праз размешчаны на сайце міністэрства сэрвіс» Электронны зварот», - распавялі ў прэс-службе. Інфармацыя аб катэгорыях грамадзян, якія вызваляюцца ад выплаты збору, і прыкладнай форме паведамлення аб наяўнасці права на вызваленне ад выплаты збору, размешчана на сайце міністэрства ў раздзеле «Збор на фінансаванне дзяржаўных выдаткаў».

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** З-за зніжэння паставак расійскай нафты ў няпростым становішчы апынуўся НПЗ "Нафтан", дзе знізіўся прыбытак, прыйшлося замарозіць рост зарплат, іншыя траты.

**Орша.** Пасол Кітая ў РБ Цуй Цімін з групай кітайскіх бізнесменаў наведалі будоўлю буйнога лагістычнага комплексу ў Балбасава, здача яго І-й чаргі будзе ў сярэдзіне 2018 года.

**Віцебск.** Ныгледзячы на пакаранне адказных за перш вываз, група беларускіх школьнікаў зноў апынулася на ваенных праваслаўных зборах рускіх неанацыстаў у Падмаскоўі.

**Полацк.** Паліцыя Расіі паведаміла беларускім калегам, што жыхарка горада па электроннай пошце "замініравала" НПЗ "Кінеф" у Ленінградскай вобласці.

**Шаркаўшчына.** У вёсцы Алашкі прайшоў абласны этап сямейнага конкурсу "Уладар сяла - 2016", лепшымі сярод 11 сем'яў-фіналістаў сталі прадстаўнікі Бешан–ковіцкага раёна.

**Паставы.** Суд раёна пакараў 4 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці п'янага 37-гадовага кіроўцу, рыбавода рыбгаса "Навінкі", які збіў насмерць школьніка паблізу Варапаева.

**Гарадок.** Каля 8 гадзін вечара ў вёсцы Светлыя 58-гадовая кіроўца з Гомеля наехала на 54-гадовага мясцовага жыхара, які загінуў ад атрыманых траўм на месцы ДТЗ.

**Глыбокае.** Амаль усе выпускнікі раённай гімназіі сталі сёлета студэнтамі вышэйшых навучальных устаноў, па раёне з 303 юнакоў і дзяўчат пасля школы 163 з іх паступілі ў прэстыжныя ўніверсітэты.

**Браслаў.** Міністэрства адукацыі Беларусі ў рэйтынг топ-100 лепшых навучальных устаноў краіны ў трэці раз уключыла раённую гімназію, туды трапілі 12 школ і гімназій вобласці.

**Мёры.** У незвычайнай карціннай галерэі, аднаўленай былой пуні для сена ў вёсцы Мілашова адкрылі выставу карцін вядомай беларускай мастачкі Аксаны Аракчэевай.

**Віцебск.** У цэнтры горада, у парку Партызанскай славы абгарадзілі тэрыторыю плошчай 0,39 гектары для будаўніцтва Сафійскага сабора, будуць спілены 206 вялікіх дрэў.

**Талачын.** Раніцай на прасёлачнай дарозе конная павозка звалілася ў кювет у закінутую сенажную яму, загінулі 49-гадовы пастух з 41-гадовай сужыцелькай, конь не пацярпеў.

**Докшыцы.** Да паўтысячы вернікаў прыехалі ў касцёл Параф'янава на фэст у гонар найсвяцейшай Панны Марыі з канцэртам пасля імшы вядомых музыкантаў з Мінска.

**Глыбокае.** Суд раёна абавязаў 33-гадовага непрацуючага гараджаніна выплочваць пажылым маці і бацьку па 42 рублі штомесяц аліментаў, які жыў з імі за кошт бацькоў.

**Полацк.** Палачанін Андрэй Праневіч стаў чэмпіёнам Паралімпійскіх гульняў у Рыа-дэ-Жанейра ў фехтаванні на шпагах на інвалідных калясках у катэгорыі "В".

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Не разбіць, не спыніць, не стрымаць!

## Дваццаць пяць гадоў назад герб “Пагоня” і бел-чырвона-белы сцяг сталі дзяржаўнымі сімваламі Рэспублікі Беларусь



Па матэрыялах друку падрыхтаваў
**Кліменцій Кожан,**
*краязнаўца, м. Германавічы.*

**19 верасня 1991 года Вярхоўны Савет Беларусі 12-га склікання 2\3 галасоў зацвердзіў сімвалы новай суверэннай дзяржавы, якая была адроджана 25 жніўня 1991 года, калі Дэкларацыя аб незалежнасці, абвешчаная 27 ліпеня 1990 года, набыла статус часовай Канстытуцыі.**

Вытокі герба “Пагоня” сягаюць у часы Полацкага княства XIIст., калі ўзнікла новая дзяржава – ВКЛ. Яе вялікі князь Віцень у 1296 годзе зацвердзіў сімвал сваёй краіны – збройнага рыцара на кані, які пачаў называцца “Пагоняй”. Пасля Люблінскай уніі 1569 года, калі Польшча і Вялікае княства Літоўскае стварылі новую дзяржаву – Рэч Паспалітую, на яе гербе сумясцілі сімвал Польшчы – белага арла і сімвал ВКЛ – “Пагоню”. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе знікла і яе сімволіка. Але ў Расіі герб “Пагоня” не быў забаронены і актыўна выкарыстоўваўся ў расійскай геральдыцы XIXст. “Пагоня” адлюстравана на помніку “Тысячагоддзе Расіі”, які быў пастаўлены ў Ноўгарадзе, каля Сафійскага сабора. Падчас нацыянальнага адраджэння канца XIX – пачатку XXстст. розныя варыянты “Пагоні” выкарыстоўвалі як літоўцы, так і беларусы як спадкаемцы ВКЛ. У 1918 годзе і літоўцы, і беларусы пачалі выкарыстоўваць “Пагоню” ў якасці дзяржаўнага сімвала. Аднак лёс дзяржаўных утварэнняў літоўцаў і беларусаў быў розны. У 1920 годзе Ленін прызнаў незалежнасць Літвы і яе дзяржаўны герб “Пагоню”.

Каб не аддаць Вільню, нашу старадаўнюю сталіцу, літоўцам, са згоды палякаў паднялі “бунт” беларускія дывізіі і ў кастрычніку 1920 года абвясцілі рэспубліку Сярэдняя Літва са сталіцай у Вільні і таксама з гербам “Пагоня”. У 1922 годзе Сярэдняя Літва далучылася да Польшчы.

Беларуская Народная Рэспубліка (БНР), абвешчаная 25 сакавіка 1918 года, таксама ўзяла за герб “Пагоню”, аднак у 1919-1920 гадах захаваць незалежнасць не здолела, нягледзячы на славутае Слуцкае паўстанне ў лістападзе 1920 года. БССР, абвешчаная 1 студзеня 1919 года, мела тыповую савецкую сімволіку, якая некалькі разоў да верасня 1991 года ўдакладнялася і змянялася ў дробных дэталях.

Сцягі, як нацыянальныя сімвалы незалежных дзяржаў, усталяваліся ў Еўропе ў XVIIIст. Да гэтага выкарыстоўваліся палотнішчы з выявамі дзяржаўных гербаў ці кіраўнікоў феадальных дзяржаў-каралёў, імператараў, князёў і інш. Так, дзяржаўны сцяг ВКЛ – гэта выява Пагоні на чырвоным палотнішчы. У XIXст. ужо ўсе незалежныя краіны свету мелі як асобны сцяг, так і асобны герб.

Як пісаў Алег Трусаў, “вытокі беларускіх нацыянальных колераў сягаюць яшчэ ў бронзавы і жалезны вякі, калі мясцовыя плямёны ўпадабалі чырвоны і белы колеры. Розныя спалучэнні чырвонага і белага колераў уласцівыя для многіх славянскіх народаў. Доўгі час розныя спалучэнні чырвонага і белага колераў былі характэрныя для вайсковай беларускай сімволікі, бо добра бачныя на полі бою. Пад чырвонымі сцягамі Усяслаў Чарадзей змагаўся супраць рускіх князёў, якія ваявалі пад чорнымі сцягамі. Першыя вядомыя нам каляровыя выявы белага трохкутнага сцяжка з чырвоным крыжом пасярэдзіне невядомы мастак намаляваў у XVIст. на батальнай карціне “Бітва пад Оршай”. Бел-чырвона-белыя палоскі ў сваім адзенні выкарыстоўваюць і высокія хрысціянскія святары, асабліва праваслаўныя мітрапаліты і патрыярхі”. (“Наша слова”, 14 верасня 2011 года, №37 (1032).

Канчатковыя прапорцыі беларускага нацыянальнага сцяга склаліся ў пачатку XXст. Гісторык Віталь Скалабан знайшоў і надрукаваў першую вядомую нам сёння каляровую выяву нашага сцяга на вайсковай улётцы 1917 года, надрукаванай беларусамі, якія служылі на румынскім фронце.

Бел-чырвона-белы сцяг мае канкрэтнага аўтара. Сцяг стварыў у 1917 годзе Клаўдзій Дуж-Душэўскі. Створаны ім сцяг быў упершыню ім узняты ўвесну 1917 года на будынку беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ў Пецярбургу. Клаўдзій Дуж-Душэўскі ў той час быў супрацоўнікам гэтага таварыства. А 12 сакавіка ў Мінску ўпершыню адбылося масавае свята – нацыянальны Дзень беларускага значка. Бел-чырвона-белыя значкі, кукарды і сцяжкі можна было пабачыць паўсюль на вуліцах.

Бел-чырвона-белую стужку ў 1917 годзе сталі насіць і вайскоўцы-беларусы на франтах Першай сусветнай вайны, каб пазнаваць сваіх.

У снежні 1917 года ў Мінску падчас Усебеларускага з’езда бел-чырвона-белы сцяг ужо адзінадушна прызнаваўся нацыянальным сімвалам Беларусі.

У 1918 годзе бел-чырвона-белы сцяг стаў дзяржаўным сімвалам БНР і быў вывешаны на балконе дома ў Мінску, дзе знаходзіўся Урад БНР.

Пасля раздзелу Беларусі ў 1921 годзе паміж бальшавікамі і палякамі нацыянальная сімволіка перастала афіцыйна выкарыстоўвацца, але пра яе не забыліся. На тэрыторыі Заходняй Беларусі беларускія патрыёты на святы вывешвалі “Пагоню” і бел-чырвона-белы сцяг, і польскія ўлады гэтаму асабліва не пярэчылі.

**Сучасныя гербы – Віцебскай вобласці і гарадоў вобласці з выявай “Пагоні”.**



**Верхнядзвінск**



**Смаляны (Аршанскі р-н))**



**Лепель**



**Шэўрон Віцебскага абласнога ўпраўлення МНС**




У БССР падчас беларусізацыі дазвалялася друкаваць “Пагоню” як герб ВКЛ і, нават, былі спробы ўжываць на ўрачыстасцях бел-чырвона-белыя стужкі. Аднак, падчас сталінскіх рэпрэсій нацыянальная сімволіка трапіла пад строгую забарону.

Пасля акупацыі Беларусі немцамі і падзелу яе на розныя адміністратыўныя часткі, у цэнтральнай Беларусі, якая называлася Weissruthenia, яе кіраўнік гаўляйтар Кубэ, непасрэдна прызначаны Адольфам Гітлерам, дазволіў беларусам на падначаленай яму тэрыторыі карыстацца нацыянальнай сімволікай у святочныя дні.

На астатніх частках Беларусі, асабліва на Беласточчыне і Гарадзеншчыне, якія былі ўключаны ў склад нямецкай дзяржавы, наша нацыянальная сімволіка была забаронена.

Пасля Другой сусветнай вайны, у пачатку 50-х гадоў, у СССР вырашылі надаць усім 16 савецкім рэспублікам свае сцягі, якія мелі розную каляровую гаму. Тады і быў створаны чырвона-зялёны сцяг БССР, з палоскай бел-чырвона-белага арнаменту, як адгалоска былой геральдычнай традыцыі.

У 70-80 гадах XXст. беларуская эміграцыя, асабліва ў ЗША, Канадзе і Аўстрыі актыўна карысталася нацыянальнай сімволікай. У БССР адносіны да “Пагоні” і бел-чырвона-белага сцяга былі розныя. Калі ў Літве “Пагоня” была цалкам забаронена, то на Беларусі яе выявы можна было сустрэць не толькі ў музеях, але і ў грамадскіх месцах. Каваная з жалеза “Пагоня” аздабляла акно ў вежы былога кальвінскага збору ў Заслаўі; ветранік з выявай “Пагоні” аздобіў аднаўленую вежу Лідскага замка.

Нават маладыя гісторыкі ў Беларусі пра нацыянальны сцяг і нацыянальны герб нічога не ведалі. Вяртаць наш сцяг моладзі пачалі нашы мастакі, найперш Яўген Кулік і Мікола Купава, якія сталі маляваць адпаведныя сцяжкі і стужкі на сваіх творах.

Пасля стварэння БНФ у 1988 годзе нацыянальная сімволіка выйшла на вуліцы і плошчы нашых гарадоў. Вялікую ролю ў пашырэнні ведаў пра нашы сімвалы адыгралі вядомыя гісторыкі: Міхась Ткачоў, Анатоль Грыцкевіч, Анатоль Цітоў і іншыя.




**Сучаснае выкарыстанне колішняга дзяржаўнага герба “Пагоня” ў сувенірнай прадукцыі.**
*Фота symbal.by*

Да нацыянальнай сімволікі прывыклі. Ёй пачалі ганарыцца і шырока карыстацца. І вось надышло 19 верасня 1991 года. Алегу Трусаву давялося стаяць на парламенцкай трыбуне і ад імя Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны праводзіць Закон “Аб дзяржаўным гербе і сцягу Рэспублікі Беларусь”. Абмеркаванне ішло доўга. Прадстаўнік ветэранаў прапанаваў замяніць шасціканцовы крыж на шчыце вершніка на бальшавіцкую пяцікутную зорку. Алег Трусаў тады сказаў, што толькі нячыстыя сілы баяцца крыжа. Зала выбухнула смехам, і на табло з’явіліся неабходныя 2\3 галасоў дэпутатаў.

4 кастрычніка 1991 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі ўтварыў Камісію для выпрацоўкі эталона дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь і даручыў Алегу Трусаву яе ўзначаліць. Яго намеснікам стаў Валянцін Голубеў. У Камісію ўвайшлі дэпутаты Вярхоўнага Савета, мастакі, гісторыкі, дызайнеры, юрысты і чыноўнікі Міністэрства культуры. Пасля плённай працы 10 снежня 1991 года Вярхоўны Савет зацвердзіў эталон дзяржаўнага герба, а 11 снежня – Палажэнне “Аб дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь”.

19 чэрвеня 1992 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі прыняў пастанову аб стварэнні Камісіі па забеспячэнні адзінай палітыкі ў выкарыстанні дзяржаўных сімвалаў Рспублікі Беларусь. Узначаліў Камісію Алег Трусаў, намеснікам зацвердзілі Віктара Шэймана, сакратаром – Валянціна Голубева. У склад Камісіі ўвайшлі мастакі Лявон Бартлаў, Уладзімір Булгакаў, Яўген Кулік, Мікола Купава, Аляксей Марачкін, Леў Талбузін, дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі – Мікалай Жураўлёў, Лявонцій Здановіч, супрацоўнік сакратарыята Вярхоўнага Савета Беларусі Іван Лазавікоў, гісторыкі і мастацтвазнаўцы – Анатоль Грыцкевіч, Міхась Раманюк, Анатоль Цітоў, прадстаўнікі Узброеных Сіл Беларусі – Вячаслаў Казлоў, Мікалай Падобра, Віктар Янчанкаў, Пётр Крэчка – першы намеснік старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі, Аляксандр Кісялёў – першы намеснік старшыні Вышэйшага Гаспадарчага Суда Беларусі.

Склад Камісіі быў падабраны ўдала. Камісія актыўна працавала і ўсе элементы дзяржаўнай сімволікі ва ўсіх сферах жыцця былі створаны. Шмат якімі карыстаюцца вайскоўцы, мытнікі, міліцыянты, памежнікі.

Летам 1991 года, дзякуючы падтрымцы Міністра замежных спраў Беларусі Пятра Краўчанкі, накладам 20000 асобнікаў выйшла афіцыйнае выданне “Заканадаўчыя акты аб дзяржаўнай сімволіцы Рэспублікі Беларусь” (складальнікі Алег Трусаў і Іван Лазавікоў). Заканадаўчыя акты былі пададзены на трох мовах – беларускай, рускай і інгліійскай і разасланы ў дзяржаўныя ўстановы Беларусі, у беларускія амбасады за мяжой. Іх можна было набыць і ў кнігарнях.

Другое дапоўненае выданне заканадаўчых актаў аб дзяржаўнай сімволіцы выйшла ў пачатку 1994 года накладам 15000 асобнікаў. Яно было дапоўнена тэкстамі на французскай, нямецкай і іспанскай мовах.

14 мая 1995 года адбыўся рэферэндум, мэтай якога было пазбавіць беларускі народ сваёй мовы і гістарычнай памяці.

Новыя дзяржаўныя сімвалы ніхто не распрацоўваў і не абмяркоўваў, ніякіх камісій па іх распрацоўцы не было створана. Аўтараў гэтых сімвалаў дакладна ніхто не ведае. Праўда, Леанід Сініцын гаварыў, што новы герб ён прыдумаў даволі хутка.

За змену сімволікі прагаласавала менш, чым палова ад колькасці ўсіх выбаршчыкаў – грамадзян Беларусі. Не паспелі падвесці вынікі рэферэндуму, як новы герб Беларусі змянілі, намаляваўшы ў яго цэнтры чырвоную пяцікутную зорку.

Ішлі гады. Свядомыя беларусы ў Беларусі і ў замежжы масава выкарыстоўвалі нацыянальную сімволіку. Яе ведае ўвесь цывілізаваны свет. Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 14 мая 2007 года №578 герб “Пагоня” ўнесены ў Дзяржаўны Спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь.

**Прыйдзе час, калі нацыянальная сімволіка зноў стане дзяржаўнай.**

# Няпамятлівасць вельмі дорага каштуе

**Лес – адно з асноўных багаццяў нашай краіны, і як мы будзем ставіцца да яго захаванасці, залежыць наша будучыня.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Лясістасць тэрыторыі краіны складае больш за 37%. Нягледзячы на ўсё гэта багацце, праблемай застаецца драпежніцкае стаўленне да лесу. Нярэдкія выпадкі нахабнага крадзяжу лесу, прычым выразаюцца самыя лепшыя дрэвы, забіраецца самая карысная частка дрэва, а астатняе кідаецца.

Так званыя "індывідуальныя прадпрымальнікі", вельмі часта карыстаюцца занятасцю, бескантрольнасцю, а часам і матэрыяльнай зацікаўленасцю леснікоў, купляючы 10 м³ дроў на законных падставах, затым вывозяць 30-50 м³ і больш па адным і тым жа дакуменце, на чым нядрэнна зарабляюць.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету штомесяц выяўляюць такія факты і прыцягваюць вінаватых да строгай адказнасці. Асабліва парушальнікі актывізуюцца ў перадзімовы і зімовы перыяд.

З надыходам восені жыхары раёна ўсё больш актыўна пачынаюць нарыхтоўваць дровы, асабліва на землях сельскагаспадарчага прызначэння. Асобныя грамадзяне карыстаюцца несапраўднымі дакументамі (даведка агранома гаспадаркі, сельскага Савета і г.д.).

Звяртаем увагу грамадзян, што адзіны дакумент, які дазваляе нарыхтоўку і вываз драўніны з зямель сельскагаспадарчага прызначэння, – гэта ордэр на нарыхтоўку драўніны, выдадзены мясцовым лясніцтвам, усе астатнія даведкі ад іншых арганізацый несапраўдныя. (Для атрымання ордэра на нарыхтоўку драўніны грамадзянам неабходна звяртацца ў лясніцтва з пісьмовай заявай; якая ў абавязковым парадку павінна быць зарэгістравана і разгледжана.) Высечка дрэў па рашэнні сельскага выканаўчага камітэта дазваляецца толькі на землях населеных пунктаў. Закон Рэспублікі Беларусь "Аб раслінным свеце" глава 37 "Выдаленне аб'ектаў расліннага свету" выразна гаворыць, што выдаленне, у тым ліку высечка, драўняных або кустовых аб'ектаў расліннага свету, размешчаных на землях любых катэгорый, за выключэннем зямель населеных пунктаў, ажыццяўляецца ў парадку, устаноўленым лясным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аб раслінным свеце.



Асобныя грамадзяне не спяшаюцца звярнуцца ў лясніцтва з нагоды нарыхтоўкі дроў, а самастойна спрабуюць іх нарыхтаваць у забароненых месцах. Такія факты супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі выяўляюцца, і вінаватыя нясуць суровае пакаранне. Так, за верасень месяц у незаконных нарыхтоўшчыкаў канфіскавана больш за 40 м³ драўніны.

Пасля нарыхтоўкі драўніны маюцца яшчэ выпадкі яе вывазкі без адзнакі службовай асобы лясгаса пра адпусканне драўніны. Такія парушэнні супрацоўнікамі інспекцыі спыняюцца, і вінаватыя нясуць адказнасць. Няпамятлівасць вельмі дорага каштуе. За дадзенае парушэнне заканадаўства прадугледжвае штраф у памеры да 20 базавых велічынь.

Правілы нарыхтоўкі і вывазкі драўніны распаўсюджваюцца не толькі на грамадзян, але і на ўсе прадпрыемствы, арганізацыі і гаспадаркі, г.зн. і на юрыдычных асоб. Любая перавозка драўніны, дзелавой, дроўнай павінна быць законнай, г.зн. мець пацвярджаючыя дакументы і ў першую чаргу таварна-транспартную накладную (ТТН), запоўненую ў адпаведнасці з патрабаваннямі заканадаўства. У ТТН павінны быць запоўнены ўсе графы (марка і нумар транспартнага сродку, парода драўніны, аб'ём, месцы пагрузкі і выгрузкі і г.д.)

**Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон "гарачай лініі" Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 8-02156- 2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 6456678 (МТС).**

# Следству патрэбна Ваша дапамога!

**У вытворчасці Глыбоцкага раённага аддзела Следчага камітэта знаходзіцца крымінальная справа, распачатая 1 жніўня гэтага года па ч.1 арт.205 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь па факце крадзяжу ровара 4 "АВ".**

Просім тых, каму нештa вядома пра гэта злачынства, аказаць дапамогу следству.

**Інфармацыя пра злачынства:**

Перыяд часу, на які ўчынена – з 21³⁰ гадзін 23.08.2016 па 14⁰⁰ гадзін 25.08.2016.

**Месца ўчынення злачынства** – г. Глыбокае, вул. Леніна Д.107А, пад'езд №6.

Неўстаноўленая асоба ў вышэйназваны перыяд часу шляхам свабоднага доступу таемна выкрала з пад'езда № 6 дома №107А па вул.Леніна ў г. Глыбокае ровар светла-бірузовага колеру з тросавымі тармазамі, з усталяванымі на ім двума пластыкавымі блотнікамі шэрага колеру, катафоты ззаду - чырвонага колеру, спераду катафот белага колеру адсутнічаў.

З выкрадзеным роварам гэта асоба скрылася з месца злачынства і распарадзілася ім па сваім меркаванні, прычыніўшы матэрыяльную шкоду на суму 100 рублёў.

Відавочцаў і асоб, якім вядомыя якія-небудзь абставіны ўчыненага злачынства, просім звяртацца ў Глыбоцкі раённы аддзел Следчага камітэта на адрас: г. Глыбокае, вул. Леніна, д.95, каб.№9, або патэлефанаваць па тэл.: 5-04 -12.

Загадзя ўдзячныя за супрацоўніцтва.

*Глыбоцкі раённы Следчы камітэт*

# У Глыбокім у прадпрымальніка ўкралі больш за трыста мільёнаў



**4 кастрычніка стала вядома аб тым, што ў Глыбокім злодзеі скралі ў прадпрымальніка сумку з грашыма.**

Усё пачалося са звароту ў праваахоўныя органы індывідуальнага прадпрымальніка, які займаўся вырабам помнікаў.

Па словах пацярпелага, у яго знікла сумка з грашыма. Грашовыя сродкі былі прадстаўлены ў розных валютах - не толькі беларускіх рублях, але таксама доларах ЗША, еўра і расійскіх рублях. Усяго было выкрадзена парадку 34 тыс. дэнамінаваных рублёў.

Як мяркуецца, крадзеж адбыўся, калі мужчына быў у камандзіроўцы, а яго жонка - у санаторыі. Пры гэтым ніхто з іх, па вяртанні, не заўважыў таго, што ў доме знаходзіліся старонні, а факт крадзяжу быў выяўлены толькі праз нейкі час.

Па гэтым факце была распачатая крымінальная справа. Вядзецца праверка. Дэталі таго, што здарылася, удакладняюцца.

*belnovosti.by*

# Новая капліца асвечана ў Докшыцах

**Святыню, якая пабудавана на каталіцкіх могілках, у суботу 1 кастрычніка асвяціў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.**

Будаўніцтва храма пачалося ў 2013 годзе і было закончана сёлета. Кіраваў будаўніцтвам айцец Марэк Пасют. Адными з галоўных фундатараў святыні былі сем'і Шчэцінськіх і Абароўскіх з Польшчы, прадстаўнікі якіх прысутнічалі на мерапрыемстве. Продкі гэтых сем'яў паходзяць з Докшыц, таму яны і падтрымалі гэтую ініцыятыву.

На ўрачыстасці прысутнічала шмат святароў і вернікаў, як з Докшыц, так і іншых мясцін. Прысутнічалі прадстаўнікі паольскай амбасады, мясцовай улады.

Храм атрымаўся вельмі прыгожы, у ім адчуваецца веліч і густ.

Айцец Марэк Пасют адзначыў, што праца па добраўпарадкаванні могілак будзе працягвацца. Ён заклікаў вернікаў ставіць на магілы не штучныя, а жывыя кветкі. Бо жывыя кветкі – гэта жывая памяць.

*Зміцер Лупач*



# Электронныя сэрвісы Міністэрства па падатках і зборах

**Жыццё ў сучасным грамадстве непарыўна звязана з інфармацыйнымі тэхналогіямі. Камп'ютары, Інтэрнэт, розныя гаджэты імкліва ўвайшлі ў наша жыццё. Паспяховасць і канкурэнтаздольнасць ў прафесійнай сферы і бізнесе шмат у чым залежаць ад здольнасці эфектыўна выкарыстоўваць інфармацыйныя рэсурсы і сродкі інфармацыйных камунікацый.**

*Заканчэнне. Пачатак у №39(860)*

## Дадатковыя магчымасці партала

Мы ўжо пазнаёміліся з найбольш запатрабаванымі электроннымі сэрвісамі Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь (МПЗ). Сёння раскажам пра менш вядомыя, але не менш карысныя магчымасці партала:

■ **расклад асабістага прыёму грамадзян кіраўніцтвам МПЗ і рэгіянальных інспекцый**; прагляд даступны ўсім наведвальнікам сайта, магчымасць самастойнай запісу на прыём у адпаведнасці з графікам толькі карыстальнікам "Асабістага кабінета";

■ **аплата падаткаў** праз інтэрнэт-банкінг Альфа-банка, Беларусбанка, Белгазпрамбанка, Белінвестбанка – даступна карыстальнікам "Асабістага кабінета";

■ **доступ у адзіную інфармацыйную базу звестак кантрольных (наглядных) органаў** для прагляду інфармацыі па аднясенні да групы рызыкі на падставе прастаўлення крытэрам па ўсіх кантралюючых органах; доступ па ключы электроннага лічбавага подпісу (ЭЛП);

■ **прадастаўленне ў МПЗ заяў у электронным выглядзе для атрымання ліцэнзіі па гульнявому бізнэсу**; заява падпісваецца ЭЛП;

■ **пошук у рэестры камерцыйных арганізацый і індывідуальных прадпрымальнікаў з павышанай рызыкай** учынення правапарушэнняў у эканамічнай сферы; даступны ўсім наведвальнікам сайта;

■ **пошук звестак з Дзяржаўнага рэестра плацельшчыкаў (юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў), якія не складаюць падатковую тайну**; даступны ўсім наведвальнікам сайта.




## Цэнтр інфармавання

Паслуга "Цэнтр інфармавання", прызначаная для атрымання інфармацыі, што накіроўваецца інспекцыямі МНС на электронную пошту – даступная ўсім плацельшчыкам. Наяўнасць ЭЛП не патрабуецца.

Гэтая можа быць рассыланне інфармацыі пра новаўвядзенні заканадаўства, паведамленні аб маючых адбыцца семінарах, напамінкі пра набліжэнне тэрмінаў прадастаўлення дэкларацый і выплаты плацяжоў, апавяшчэнне аб накіраванні паведамлення ў "Асабісты кабінет" (для ўладальнікаў ЭЛП).

Для падключэння да сэрвісу неабходна падаць у падатковую інспекцыю заяву адвольнай формы з указаннем адраса электроннай пошты (e-mail) і абавязацельства правесці арганізацыйныя і тэхнічныя меры па ўстаноўцы даверу да паштовага сэрвера МПЗ (дадаць электронны адрас інспекцыі МПЗ, з якога будуць прыходзіць паведамленні, у спіс кантактаў і, у выпадку выкарыстання ўласнага паштовага сервера, дадаць паштовы сервер МПЗ nalog.gov.by ў спіс давераных паштовых сервераў).

## Партал электронных рахункаў-фактур

Партал http://vat.gov.by/ прызначаны для працы з электроннымі рахункамі-фактурамі па падатку на даданую вартасць, механізм функцыянавання якіх уведзены з 1 ліпеня 2016 года.

Акрамя неабходных дзеянняў па выстаўленні рахункаў-фактур і кіраванні вылікамі па ўваходных рахунках-фактурах, плацельшчыкам прадастаўлены функцыянал для правядзення камеральнага самакантролю, маніторынгу здзелак.

Наяўнасць на партале актуальных апісанняў xml-дакументаў і xsd схем дазваляе плацельшчыкам аўтаматызаваць працэс стварэння электронных рахункаў-фактур ва ўліковай сістэме прадпрыемства на падставе першасных дакументаў.

Плацельшчыкам прадастаўлены таксама web-сэрвісы пакетнай апрацоўкі электронных-рахункаў фактур.

***

*Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах*

# Увага! Блохі

**Свет насякомых надзвычай вялікі і разнастайны. Многія віды насякомых жывуць не толькі ў прыродзе, але і ў непасрэднай блізкасці з чалавекам.**

■ **Д. Шыльчонак**, *фельчар-валеолаг*

Крывасмактальныя насякомыя-паразіты (камары, клапы, кляшчы, блохі, вошы) наносяць вялікую шкоду чалавеку. Многія з іх з'яўляюцца пераносчыкамі інфекцыйных захворванняў.

У апошні час пачасціліся скаргі насельніцтва на наяўнасць блох у жылых памяшканнях.

Блохі – невялікія крывасмактальныя насякомыя (1-5 мм) са сціснутым па баках цельцам, прыстасаваным да жыцця ў валасяным або пар'явым покрыве цеплакроўных жывёл, а таксама ў месцах іх пражывання. Насякомыя вядомыя сваёй прыгучасцю: адштурхваючыся заднімі нагамі, яны робяць вялікія скачкі ў даўжыню да 32 см, у вышыню да 16 см.

Самцы і самкі сілкуюцца толькі крывёю, яны вельмі пражэрлівыя, іх крывасмактанне можа доўжыцца гадзінамі. Жывуць блохі ад паўтара да чатырох гадоў, з развіццём у чатыры стадыі (яйка, лічынка, кукалка, дарослае насякомае).

Самкі сабачых, каціных блох адкладаюць яйкі ў поўсць гаспадара; самкі блох грызуноў – у гнёзды і норы сваіх гаспадароў; блохі ў жыллі чалавека – у пыл і смецце, якое знаходзяцца ў шчылінах падлогі, за ліштвой, у падсцілку для хатніх і сельскагаспадарчых жывёл.

Укусы блох хваравітыя, на месцы ўкусу з'яўляецца азызласць, пачырваненне, моцны сверб. Тыповыя месца паражэння ў чалавека – гэта ногі: лодыжкі, шчыкалаткі. Гаенне адбываецца доўга.

Сілкуючыся крывёй хворых жывёл, блохі здольныя пераносіць узбуджальнікаў хвароб жывёлам і чалавеку. Многія хваробы небяспечныя для людзей (чума, пацучыны сыпны тыф, рыкетсіёзы і інш.).

Узнікненню і распаўсюджванню блох у населеных пунктах спрыяюць міграцыі мясцовых жывёл (безнаглядныя жывёлы; грызуны, якія перасяляюцца восенню з прыроды ў месца жыхарства людзей).

Хатнія жывёлы могуць занесці ў хату блох з вуліцы або пасля кантакту з заражанымі жывёламі, птушкамі. У кватэру насякомыя могуць трапіць з пад'езду, склепа (праз шчыліны ў падлозе).

Блохі часта насяляюць падвалы шматпавярховых дамоў, канцэнтруюцца ў месцах, дзе цёпла і вільготна; засяляюць падвалы і дамы ў сельскай мясцовасці, складскія памяшканні, без бетанiраванай аддзелкі, дзе ёсць смецце, хлам, насяляюць пацукі, дамавыя мышы, бяздомныя жывёлы. У жыллі чалавека іх можна выявіць на вышыні да аднаго метра: у рэчах, мяккіх цацках, шчылінах, мэблі, на дыванах і паласах, пад ліштвой.

Для папярэджання заносу блох у падвалы і гарышчы іх неабходна зрабіць недаступнымі для грызуноў, бадзяжных жывёл і птушак, своечасова праводзіць ачыстку памяшкання ад смецця і пылу.

Для папярэджання з'яўлення блох у кватэрах неабходна пастаянна падтрымліваць чысціню ў памяшканнях, ажыццяўляць належны догляд за хатнімі жывёламі, перыядычна аглядаць на наяўнасць блох. Сачыць за месцамі іх утрымання і адпачынку – будкамі, кошыкамі, падсцілам і інш.

## Метады барацьбы з блохамі

Для знішчэння блох у памяшканнях неабходна апрацаваць паверхню падлогі, шчыліны за ліштвой, сцены на вышыні да аднаго метра, выкарыстоўваючы спецыяльныя прэпараты (інсектыцыды). Дываны, паласы таксама неабходна апрацаваць дадзенымі сродкамі і звярнуць. Мяккую мэблю рэкамендуецца прапыласосіць. Любая неапрацаваная паверхня дае гэтым маленькім насякомым ацалець.



Пры выкарыстанні любога сродку ад блох неабходна выконваць максімальныя меры засцярогі: гумовыя пальчаткі, маска на твар, акуляры.

Пасля апрацоўкі неабходна зачыніць памяшканне на час, які ўказаны ў інструкцыі па ўжыванні прэпарата. Пасля заканчэння дадзенага часу праветрыць памяшканне. На працягу тыдня ўборку ў апрацаваным памяшканні рабіць не рэкамендуецца. Гэта неабходна для таго, каб загінулі не толькі блохі, але і іх лічынкі. Паўторная апрацоўка памяшканняў праводзіцца па паказаннях.

Вялікую ўвагу варта надаваць барацьбе з грызунамі, так як на іх таксама паразітуюць блохі, і перш за ўсё ў восеньскі перыяд, калі мышы і пацукі імкнуцца пракрасціся ў пабудовы і падвалы.

Для выгнання блох з жылых памяшканняў можна скарыстацца і народнымі сродкамі, якія з'яўляюцца бяспечнымі для жыхароў. Так, напрыклад, блохі не пераносяць паху такой травы, як пiжма і палын. Іх можна раскласці па кватэры ў пучках, а можна выкарыстоўваць настой гэтых траў пры вільготнай уборцы. Праз некаторы час усе блохі самі пакінуць вашу кватэру.

Будзем рады, калі гэта інфармацыя будзе вам карысная.

**Калі вы самастойна не зможаце справіцца з надакучлівымі насякомымі, то заўсёды можаце звярнуцца ў аддзел эпідэміялогіі дзяржаўнай установы "Глыбоцкі раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі" для набыцця сродкаў супраць блох і, пры неабходнасці, замовіць апрацоўку сіламі спецыялістаў цэнтра, тэлефон для даведак 2-20-21.**

